Др[illegible]ньне па канфіскаце.

# Н[illegible]ы Звон

[illegible]аруская радыкальная часопіс. Орган „Цэнтрасаюзу“.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9, кв. 22

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес.—50 гр.



Год I. Вільня, 1 лістапада 1930 г. №. 3



## Каго выбіраць?

16 лістапада адбудзецца галасаваньне ў Сойм, а 23-га лістапада ў Сэнат.

Засталося вельмі мала часу да таго моманту, калі беларускі народ перад усім сьветам павінен паказаць, што ён існуе і што яшчэ жывы і здольны да жыцьця.

За гэты час, які застаўся да выбараў—сьвядомая частка беларускага грамадзянства павінна выявіць максімум актыўнасьці і рухлівасьці. Яна павінна перадусім растлумачыць беларускім масам,—якія шкодныя вынікі для ўсей беларускай справы могуць аказацца ў тым выпадку, калі-б яны паслухалі нейкіх таямнічых агітатараў, радзячых байкатаваць выбары і кідаць белыя карткі.

Калі-б усё беларускае грамадзянства паслухала такіх дарадчынаў—то вынікам гэтага было-б тое, што мы ня мелі-бы ніводнага беларускага пасла.

Але так ня будзе, бо мы верым у тое, што наша сьвядомае грамадзянства пераканаець усіх—якое важнае палітычнае значэньне маюць сучасныя выбары.

Далей,—нам трэба палажыць шмат высілкаў на тое, каб адцягнуць несьвядомую частку беларускага грамадзянства ад розных польскіх партыяў, якія сваёю дэмагогіяй зноў, як гэта было і раней, зьбіраюцца ашукаць беларускія масы. Ніводзін беларускі голас не павінен бы пасьці на сьпіскі гэтых партыяў, для якіх беларускі народ зьяўляецца толькі дойнаю кароваю.

**Беларусы павінны галасаваць за беларускія партыі**—і гэта цьверджаньне здаецца не вымагаець лішніх тлумачэньняў.

Але тут таксама паўстаюць труднасьці, бо, як ужо вядома,—не дайшло да ўтварэньня агульна-беларускага блёку. Яго сарвалі тыя асобы, якім за ўсялякую цану хацелася пралезьці ў Сойм. Беларускае грамадзянства добра ведае, якую карысьць для беларускай справы прынесьлі тыя паслы, якія праходзілі ў папярэдніх выбарах ад Сялянскага Саюзу і хадэцыі на чале з п. п. Ярэмічам і Рагуляю.

Цяпер ім трэба адпачыць і асвоіцца з тою думкаю, што пасланьне ў Сойме ня можа ператварыцца ў сваяго роду прафэсію.

Яны павінны даць дарогу новым сілам, якія запраўды павінны папрацаваць на карысьць беларускай справы.

Але гэтай „дарогі“ яны не даюць і зноў павыстаўлялі свае кандыдатуры ў розных вокругах.

Беларускі народ сваім галасаваньнем — сам павінен іх адапхнуць, каб не перашкаджалі іншым рашчышчаць шляхі, па якім пойдзе беларуская справа.

Мы верым у тое, што беларускі народ выявіць сваю палітычную сьвядомасьць і аддасьць свае галасы за тых новых, заслугоўваючых даверу людзей, якія сваёй папярэдняй працай даказалі ўжо сваю адданасьць беларускай справе і якіх выставіў у кандыдаты Бел. „Цэнтрасаюз“.

Трэба даць магчымасьць выявіць гэтым людзям сваю энэргію і любоў да народнай справы—**ТРЭБА ПРАВЕСЬЦІ ІХ У СОЙМ.**

Там яны запраўды павінны бараніць нашы справы, а ня дбаць толькі а свае асабістыя інтарэсы, як гэта было са многімі пасламі з папярэдніх Соймаў.

Беларускае грамадзянства, выбраўшы новых паслоў, у сваю чаргу павінна ўважна сачыць за іх працаю на Соймавым грунтце і, калі-б аказалася, што некаторыя абманулі-б давер народу, — пашчады ім ня будзе і яны закончаць сваю грамадзкую кар'еру, будучы ашэльмаваны праз усё сьвядомае грамадзянства.

Такія нашы адносіны да гэтай справы і ня можа быць іншага, бо Цэнтрасаюз глядзіць на гэтую справу не з прыватнага, а грамадзкага пункту гледжаньня.

Кожны з нашых кандыдатаў даў забавязаньне, што калі-б толькі Цэнтрасаюз прызнаў працу яго падчас пасланьня шкоднаю — ён падаецца ў адстаўку.

Гэта ўсё даець нам гарантыю за тое, што з нашымі кандыдатамі ня здарыцца тое, што здарылася з іншымі ў папярэдніх Соймах.

І так,—мы павінны шчыра папрацаваць гэтыя некалькі дзён, якія нас аддзяляюць ад выбараў, не баяцца розных перашкодаў у сваёй працы і павесьці справу так, каб нашыя сьпіскі ў тых вокругах, дзе яны выстаўлены, — атрымалі перамогу.

Усё залежыць ад сьвядомасьці і энэргіі самаго беларускага грамадзянства.

## Нашы Кандыдаты у Сойм і Сэнат.

### Кандыдаты у Сойм па Наваградзкім вокругу.

1) **Міхась Міцкевіч**, 33 год, селянін, родам з в. Мікалаеўшчыны, Сьвержанскае вол., Стаўпецкага пав.

2) **Мікалай Логаш**, 32 год, селянін з Наваградзкага пав., Горадзенскай вол., хутар Кміцянка.

3) **Рыгор Якубёнак**, 44 год, дырэктар Клецкай Беларускай Гімназіі.

4) **Язэп Ярашэвіч**, 35 год, селянін з Новага Сьвержня, Стаўпецкага пав.

5) **Міхась Фурсевіч**, 35 год, селянін з в. Перакопаўшчына, Гавазьненска вол. Нясьвіжскага пав.

6) **Кузьма Крук**, 35 год, коопэратар.

### Кандыдаты ў Сойм па Сьвянцянскім вокругу.

1) **Кузьма Крук**, 35 год, коопэратар, радзіўся ў в. Масьцішча, Мікалаеўскай вол., Дзісьненскага пав.

2) **Антон Войцік**, 32 год, журналіст, радзіўся ў в. Варэньках, Парадзінскай вол., Дзісьненскага пав.

3) **Кароль Сымон**, 42 год, вучыцель.

4) **Грышкевіч Вінцук**, вучыцель Віленскай Беларускай Гімназіі. радз. у м. Будславе, Вялейскага пав.

5) **Забельскі Янка**, земляроб з в. Караблі Гарадзецкай вол., Маладэчанскага пав.

### Кандыдаты ў Сойм па Лідзкім вокругу.

1) **Кароль Сымон**, б. вучыцель беларускай радашкаўскай гімназіі.

2) **Антановіч Антон**, земляроб з в. Княгініна, Крывіцкай вол., Вялейскага пав.

3) **Забельскі Янка**, земляроб з в. Караблі Гарадзенскай вол., Маладэчанскага пав.

4) **Грышкевіч Вінцук**, вучыцель Віленскай Беларускай Гімназіі.

### Нашы кандыдаты у Сэнат.

1) **Міхалевіч Аляксандар**, дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі.

2) **Павал Арцішэўскі**, 60 год, судовы абаронца.

Першае выданьне № 3 „Народнага Звону“ сканфіскавана па загаду Віленскага Гарадзкога Старасты за артыкул „Нішчэньне інтэлігенцыі“,

## Грамадзянкі і Грамадзяне Культурнікі!

На прошлым тыдні „Цэнтрасаюз“ ужо распачаў сваю дзеяльнасьць у галіне культурна-асьветнай. 25-27 гэтага кастрычніка былі высланы інструктары з мэтаю наладзіць арганізацыю беларускіх бібліатэк-чытальняў Цэнтрасаюзу, а сёньня ўжо атрыманы весткі, што за гэную справу вельмі горача ўзяліся нашыя вясковыя дзеячы. Інструктары выехалі пакуль што ў Вялейшчыну, Дзісьненшчыну, Лідчыну, Наваградчыну і Стаўпеччыну.

Зразумела, што Цэнтрасаюзу з браку грошай немагчыма будзе ахапіць адразу ўвесь абшар Заходняе Беларусі і дайсьці да самых глухіх кутkoў нашае бацькаўшчыны і дзеля гэтага на мясцох беларусы самі павінны парупіцца аб гэтай справе. Той, хто хоча залажыць бібл.-чытальню павінен зьвярнуцца у Саюз з паведамленьнем ці ёсьць хата на чытальню і кандыдат на загадчыка. Загадчыкам можа быць згодна закону асоба (мужчына ці кабета усё роўна), якая мае поўных ня менш 21 гадоў, Польскае obywatelstwo і неабмежана ў правох карным судом. Па атрыманьні такога паведамленьня Цэнтрасаюз ці вышле свайго інструктара ці то дасьць адпаведныя інструкцыі, як аформіць гэтую справу.

**За працу, Грамадзяне!**

**Прыступайце да будовы сваіх культурна-асьветных пляцовак, бяручы сваю справу ў свае рукі!**

„Цэнтросаюз“

## „Баданьне“ падпісаўшых беларускія сьпіскі.

Як нас паведамляюць, Маладэчанскае староста зрабіла „баданьне“ ўсіх тых асоб, якія падпісалі кандыдацкі сьпісак „Цэнтрасаюзу“ на Лідзкі выбарны вокруг (Кароль, Антановіч, Забельскі, Грышкевіч і інш.). Усе „баданыя“ пацьвярдзілі ўласнаручнасьць сваіх подпісаў, і ніводзін з іх не адмовіўся ад подпісу.

Такое-ж „баданьне“ зроблена было староствам у адносінах да кандыдацкага сьпіску Украінска-Беларускага Блёку (Ярэміча), але тут усе падпісаўшыяся заявілі, што іх ашукалі, і яны ня ведалі, што падпісываюць, а цяпер толькі даведаліся, дык Ярэмічу подпісаў не даюць. Блізу ўсе падпісаўшыя—сяляне з вёскі Князёўцы.

У выніку гэтых „баданьняў“ сьпісак „Цэнтрасаюзу“ выбарнай камісіі Лідзкага вокругу зацьверджаны (№ 22), а сьпісак Укр.-Белар. Блёку (Ярэміча), скасаваны.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Гаспадарчая канфэрэнцыя ў палацы Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай.

У Варшаве 16 кастрычніка б. г. ў палацы Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай, адбылася гаспадарчая канфэрэнцыя Прэзыдэнта і міністраў з прадстаўнікамі рожных галін гаспадаркі, як прамыслу, гандлю, земляробства і гаспадаркі самаўрадаў з двух ваяводзтваў: Навагрудзкага і Віленскага, на чале са сваімі ваяводамі. Усіх учасьнікаў канфэрэнцыі было каля 200 асоб. Тэмаю канфэрэнцыі было эканамічнае палажэньне двух успомняных ваяводзтваў, у зьвязку з цяжкім крызісам, пераважна ў галіне сельскае гаспадаркі. Па прачытаных некалькіх рэфэратах на тэмы рожных гаспадарчых балячак Навагрудчыны і Віленшчыны і па ўзьнікшай пасьля гэтага дыскусыі, аказалася, што гаспадарчае палажэньне гэтых двух нашых земляў ёсьць зусім благое. У выніку гэтага канфэрэнцыя паставіла Прэзыдэнту Рэчыпаспалітай некалькі пастулятаў, у якіх учасьнікі канфэрэнцыі дамагаюцца ад цэнтральных уладаў прыняцьця ўсіх мераў і выданьня новых загадаў, з мэтаю хуткае направы гаспадарчага палажэньня Навагрудчыны і Віленшчыны.

Як відаць радзяць аб нас, але бяз нас.

## Заграніцай.

### З Нямеччыны.

Нямецкія дзяржаўнікі ў сувязі з безрабоцьцем усё вастрэй падымаюць справу новага перагляду так зв. „пляну юнга“, а пакуль што высоўваюць дамаганьне двох гадовага прыпыненьня ўсіх сплатаў па гэнаму пляну. Сам былы старшыня нямецкага дзяржаўнага Банку — слаўны Шахт паехаў у Амэрыку, дзе вядзе сільную агітацыю ў гэтым напрамку.

### Францыя.

Францыя моцна занепакоена падзеямі ў Нямеччыне, дзе нацыянальныя сацыялісты, г. зв. Гітлераўцы, пачынаюць высака падымаць галаву. Гітлераўцы, як ведама, ў адзін дух хочуць дарвацца да ўлады ў Нямеччыне, а дарваўшыся — абавязкава паставіць на павестку дня рэвізію трактатаў, рэгулюючых граніцы Нямеччыны, што Францыі не па смаку, бо яна можа ўтраціць калёніі, якія паводле трактатаў загарнула ад Нямеччыны. У гэтай небясьпецы французская апінія вініць свайго міністра замежных спраў, Брыяна, які летам с. г. насіўся з думкаю ўтварэньня вуніі Эўропы, што яму не ўдалося. Гэтая ідэя вуніі, паводле апініі нават французкіх радыкалаў і была прычынаю ўзросту рэвізыоністычнае акцыі Нямеччыны. Каб укараць віноўніка, французкія радыкалы на кангрэсе ў Грэноблі, абгаварылі справу паваленьня кабінэту Тардзі'е, ў складзе якога знаходзіцца Брыян.

### З Францыі.

У сувязі з перамогай нацыяналістаў у Нямеччыне—страшэнна завастрылася пытаньне аб Французска-нямецкіх адносінах.

З аднаго боку „правыя“ з ваеннымі пачалі рыхтавацца да таго, каб „на Гітлера“ адказаць Нямеччыне паваротам да ўлады — Пуанкарэ г. зн. — новымі азбраеньнямі ды адстаўкай тварца палітыкі паразуменьня — Брыяна. З другога боку цэлы рад выдатных французскіх палітыкаў і публіцыстаў выступіў з сэнсацыйнымі заявамі, дамагаючыся рашучых уступак з боку Францыі на карысьць Нямеччыны з мэтай захаваць паміж гэтымі дзяржавамі згоду— як неабходную падставу эўрапэйскага міру.

Вядомы публіцыст Эрвэ дамагаецца каб Нямеччыне былі зьвернены калёніі, каб яе армія была зраўнана з Французкай, каб саарскі абшар быў аддадзены Нямеччыне без плебісцыту, каб урэшце Францыя дыплёматычна націснула на Польшчу ў справе звароту Нямеччыне калідора.

### Радава-кітайскі канфлікт.

Паміж Радавым Урадам і Кітаем ізноў — непаразуменьне. Радавы Урад зьвярнуўся да Мукдэнскага Ураду з новаю нотай, дамагаючыся прыняць рашучыя меры супроць белагвардзейскай акцыі ўздоўж радава-кітайскай граніцы. Мукдэнскі Урад, як падае прэса, хоць і не даў адмоўнага адказу уліціўся заняць выразную пазыцыю

### Паўторны „цьвёрды курс“ калгасацыі.

Пасьля часовых хістаньняў і „перадышкі“, як падаюць замежныя газэты, Радавая ўлада ізноў пачала выразна праводзіць „цьвёрды курс“ калгасацыі.

### Англія.

Ангельскі ўрад выдаў новую дэкларацыю ў справе Палестыны, якая адкідае правы жыдоў да Палестыны, як да сваёй гістарычнай бацькаўшчыны. Выдаўшы новую дэкларацыю, ангельскі ўрад паставіў крыжык над слыннай дэкларацыяй лёрда Бальфура, якая разглядала жыдоў, як сапраўдных гаспадароў Палестыны, даючы ім надзею на адбудову сваёй гістарычнай дзяржавы. Ад часоў выданьня дэкларацыі лёрда Бальфура, шмат жыдоў выехала да Палестыны, дружна ўзяўшыся там да працы над адбудовай Бацькаўшчыны. Шмат жыдоў з іх капіталамі паплыло ў Палестыну з усяго сьвету, ствараючы там значны промысел. Новая дэкларацыя адбірае ім надзею надалей і сьнікваючы іх з упрывілеяванага становішча да звычайных жыхароў — каляністых.

Выданьне новае дэкларацыі супроць жыдоў, гучным рэхам адбілася сярод жыдоў усяго сьвету, якія станоўча пратэстуюць супроць абмежаваньня іх правоў да Палестыны.

Барыс Грамацкі.

# Да чаго мы дажыліся?

**Першая газэта на Беларусі. Сонечныя надзеі на будычыню. Адраджэньне Беларусі ішло шпаркім крокам. Рэвалюцыя 1917 г. і абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі. „Беларуск. Сялянска-Работн. Грамада“. Хуткае разьвіцьцё і ўпадак беларуск. руху. Да чаго мы дажыліся? Дык куды-ж ісьці?**

(*Даканчэньне*).

Адразу, як толькі пачаўся новы, няпрыхільны да беларусаў і іх культурна-нацыянальных імкненьняў курс у польскай палітыцы, і як толькі на зьмену „Грамадзе“ прыйшлі новыя людзі, дык усё ў іх руках пачало неяк корчыцца, гібець, гінуць бязсьледна. Для беларускае прэсы вытварыліся такія варункі існаваньня, што далейшае выдаваньне газэты (Віленская, 12—6) сталася немагчымым. Зьліквідавалася і „Маланка“. Адначасна з гэтым заміра праца амаль ува ўсіх іншых галінах беларускага жыцьця. Таварыства Беларускае Школы ніякай культурнай працы не вядзе; гурткі яго больш чым на палову зьліквідаваны. Беларускія Кнігарні на правінцыі зачынены. Беларускі тэатр замёр, — людзі даўно ўжо забыліся, як выглядае беларускі спэктакль. Выдавецкая праца амаль што спынілася: за апошнія гады, апрача школьных падручнікаў і маркысцкай літэратуры, выданы толькі лічаныя літэратурныя творы ў беларускай мове. Беларускія кааператывы амаль цалком перайшлі ў чужыя рукі. Беларускае пачатковае школьніцтва замерзла на мёртвым пункце. Такі самы лёс чакаў-бы і Беларускія гімназіі ў Вільні, Навагрудку і Клецку, каб не пасьпешная інтэрвэнцыя шчырых беларускіх патрыётаў, якім амаль-што цудам удалося ўратаваць гэтыя гімназіі ад загубы, няўхільна ім пагражаўшай.

Палажыўшы руку на сэрца, трэба шчыра прызнацца, што ня толькі цяжкія вонкавыя абставіны, але й у значнай меры мы самі вінаваты ў тым, што ня ідзем з прогрэсам наперад, а паўзем назад, ды шмат ад чаго засталіся ззаду ў параўнаньні з тым, што мы мелі. Усю сваю сілу, энэргію, жыцьцёвасьць скіравалі не на творчую грамадзкую працу, так неабходную пры злажыўшыхся палітычных абставінах, а на ўнутраную, часта асабістую грызьню.

Каб замест узаемнай грызьні паміж сабой, замест лезьці жыўцом у процьму чужынцам, усю сваю сілу, энэргію і здольнасьці скіравалі на служэньне роднаму народу, каб замест пустой дэмагогіі пастараліся зьблізіцца да роднай вёскі і працоўнага места, каб пастараліся зьліцца з сялянамі і работнікамі ў адно жывое і адпорнае цела, дык сёньня былі-б вялікім нацыянальна-сьведамым і добра зарганізаваным народам. Тагды мы так хутка не паддаліся-б чужым уплывам, тагды-б такому „Вызваленьню“, „ППС“-у, ці „Строніцтву Хлопскаму“, або іншай прыблудзе ня было-б што рабіць на нашых землях. Сёньня мы маглі-б разьлічваць на 30—35 сваіх прадстаўнікоў у Сойм і Сэнат, а цяпер, пры нашым сучасным, нерадасным становішчы, дай Бог, каб нам дасталося ў набліжаючыхся выбарах хоць дзесяць мандатаў.

Сялянства цяпер чуецца адарваным ад сваіх правадыроў. Моладзь патроху прыймае чужую мову, песьні, культуру. Вёска засыпаецца дармовай партыйнай літэратурай, чужой нам па духу, мове і характару. Беларускія месты і вёскі сядзяць бяз родных кніжак і газэтаў. Калі гэтак і далей пойдзе, дык беларусы адвучацца чытаць пабеларуску. Найлепшыя нашы культурныя сілы, ня маючы да чаго прылажыць рукі на роднай ніве, адыходзяць ад нас, шукаючы сабе працы і хлеба з боку ад беларускага руху. Кадры беларускай безработнай інтэлігенцыі растуць, беларускія пісьменьнікі, мастакі, песьняры сядзяць бяз хлеба, бо няма выдаўца на іх творы. Прыватныя выдавецтвы спынілі сваю працу.

Калі да вайны вяла беларуск. культурную работу жменька самаахвярных людзей і была закідана працай па самыя вушы, калі да вайны чутны былі наракaньні на недахоп беларускіх інтэлігентных сілаў, то цяпер наракаць на гэта ня прыходзіцца.

Нашы культурныя сілы ўзрасьлі значна. Сёньня маем да сваей дыспозыцыі беларускіх інжынераў, хімікаў, аграномаў, лесаводаў, дахтароў мэдыцыны, філёзофіі, філёлёгіі, сваіх гісторыкаў, географаў, матэматыкаў, праўнікаў і т. п.— маладых, поўных сілы і запалу да працы людзей з вышэйшай краёвай і заграмічнай адукацыяй. Маем больш за сотню моладзі, якая атрымала беларускую матуру. Маем сваю жывую і дзейную студэнскую моладзь.—Сілы нашы, як на Заходнюю Беларусь, досыць значныя і апрача таго сілы гэтыя растуць і з кожным годам ўсё больш і больш да нас прыбываюць.

Здавалася-б, што пры такім нарастаньні роднай інтэлігенцыі мы павінны былі-б ісьці стомілёвымі крокамі наперад. Праца павінна была-б аж гудзець ува ўсіх галінах беларускага жыцьця, бо фактычна працы ў нас—край непачаты! Не павінен быў-бы тагды інтэлігент галадаць ад безрабоцьця, або брацца за неадпаведную для яго працу. Нават з тымі культурнымі сіламі, якія да гэтай пары мы мелі, пры належнай пастаноўцы працы, мы не павінны былі-б пляcьціся ў хвасьце іншых культурных народаў, а павінны былі-б даўно іх дагнаць.

Калі падумаеш, што мы йдзем не наперад, а назад, аж мімавольны страх ахоплівае чалавека, і ў галаву прыходзіць трывожная думка: Да чаго мы дажыліся?

Пакідаючы з боку працу і прэсу беларускіх хадэкаў і сельсаюзьнікаў, якіх ніхто ніколі паважна не разглядаў і ніхто ад іх паважных вынікаў не чакаў, на вялікі свой сорам мусім сьцьвердзіць, што на ўсе паўтраця мільёны беларусаў у Заходн. Беларусі ў сучасны момант ня маем ніводнай паважнай беларускай газэты, якая-б выходзіла стала і рэгулярна і не гразіла-б, што вось-вось зачыніцца з прычыны чытаньня яе... дарма. Ня толькі сталай штодзеннай газэты, якая-б мела хоць 15—20 тысяч платных падпішчыкаў, але нават тыднёвай газэты мы ўжо като-

## Рэвалюцыя ў Бразыліі.

Передаюць, што ў Бразыліі перамога на боку паўстанцаў, якія захапілі ўладу ўва ўсім краі. Урад падаўся ў адстаўку, а прэзыдэнт зложыў свае паўнамоцтвы правадыру паўстанцаў.

## Прэзыдэнт Масарык аб рэвізіі трактатаў.

Прэзыдэнт Чэхаславаччыны Масарык распачаў, пры помачы міністэрства замежных справаў, канкрэтнае прыгатаўленьне працы ў справе рэвізіі чэска-славацка-ўгорскай граніцы, на карысьць Угоршчыны. На гэта прадстаўнікі некаторых дзяржаваў зьвярнулі Прэзыдэнту Масарыку ўвагу, што ініцыятыва рэвізіі граніцы Чэхаславаччыны можа пацягнуць за сабою гэтакія-ж самыя дамаганьні другіх дзяржаў і нарушыць спакой у Эўропе. Прэзыдэнт Масарык адказаў на гэта, што рэвізія трактатаў ёсьць адзіным рэцэптам, каб гэты спакой мог утрымацца, бо-ж трактаты фактычна ў вачох дзе якіх дзяржаў страцілі сваю павагу і сілу і аб іх пераглядзе пачынаець гаварыць, апрача Нямеччыны і Італіі, нават Францыя і Англія, якія гэтыя трактаты рабілі.

# Прадвыбарныя ластаукі.

(Кароткі фэльетон).

Белая імгла на вуліцы... Жоўтыя ліхтары разьвіваюцца ў тумане. Гэй! Холадна... Зіма набліжаецца. Без падошваў ужо ня пойдзеш. Хутка зіма...

У... ластаўкі.

Як-жа гэта?

А вось, вельмі ясна і проста. Выбары гэта вясна для людзей, „вясна народу“. Грыгор, Кузьма ды Сьцяпан зяўне, пачухае сябе за патыліцу ды буркне:

— Гм, выбары, брат, задумалі“... Вось тут, браты, і вясна крыецца... Такі вось чалавек, як Грыгор або Сьцяпан, якога ўся вёска паважае, ён, так сказаць, уваскрасае да грамадзкага жыцьця й пачынае думаць. Але тут бяда! Ад думак можна здурэць. І зусім паважна—ня сьмейцеся. Бо прыедзе гэта, бачыце, адзін „пан“, другі... трэці... чацьверты... Усе гавораць. Гавораць і аж проста пяюць. Як па нотах. Слухае іх наш селянін. Добра кажа—німа што! І зямля дае, і падаткі зьменшае, і школу абяцае, і электрыку праводзе... І адзін... і другі... і трэці... — горы абяцаюць залатыя. Але ўсе, каб іх халера, як адзін, адзін другога лае.

— А хай цябе халера!--скажа ўрэшце селянін дый плюне сур'ёзна. І добра робіць.

З вясной прылятаюць ластаўкі. Вось і перад выбарамі лятуць „прадвыбарныя“ ластаўкі. Лятуць яны па вясковых дарогах, па палёх, па зялезных шляхох — на вёску. І селянін чакае іх з нецярплівасьцю, бо яны — нясуць вясну. Але — незаўсёды, бо часам ластаўкі ашуківаюць селяніна й прылятаюць зарана. І калі ім паверыш дык і сябе ашукаеш. Але селянін у жыцьці ўжо навучыўся пазнаваць якія ластаўкі яго ашуківаюць. Ен ужо можа пазнаць, ці ашукаюць яго ластаўкі, ці не?

Тое самае й з „прадвыбарнымі“ ластаўкамі.

Шмат ластавак ляціць. Селянін! — выбірай праўдзівых ластавак, а не ашуканцаў. Яны прынясуць сапраўды ў тваю хату павеў сьвежых ветраў, радасьць і долю. Сядзе сонца ў цябе на патэльні ў печы. Ты ўсьмяхнешся шырака дый скажаш:

— Вось што значыць праўдзівая „прадвыбарная“ ластаўка!

На вуліцах белы туман... Холадна. Вецер хлёшча ў плашч дажджом... Але на сэрцы, браты, весялей. Падымаецца Беларусь, бо... лятуць перадвыбарныя ластаўкі...

Ідан.

# Хроніка.

✕ **Агульны сход Бацькоўскага Камітэту Віленскае Беларускае Гімназіі.** 19 кастрычніка г. г. адбыўся агульны сход Бацькоўскага Камітэту, на якім было прысутных 25 сяброў.

Сход адчыніў старшыня Прэзыдзіюму Бацькоўскага Камітэту гр. К. Тышкевіч, які запрапанаваў выбраць прэзыдзіюм агульнага сходу.

Старшынёю сходу быў выбраны гр. Ф. Акінчыц, сэкрэтаром — С. Кароль.

Пасьля гэтага сход прыняў наступны парадак дня:

1) Справаздача за 1929/30 школьны год; 2) Зацьверджаньне бюджэту на 1930/31 шк. год; 3) Плян працы на будучыню; 4) Выбары Прэзыдзіюму Бацькоўскага Камітэту; 5) Бягучыя справы.

З дакладу б. дырэктара гімназіі гр. Р. Астроўскага выясьнілася, што на 1. XII. 1929 году ўсяго вучняў лічылася ў гімназіі 169 чалавек. З гэтага ліку ў канцы 1929/30 шк. г. перайшло ў наступныя клясы 110 чал., пакінута на другі год 18 чал., выбыла 22 чал. Дапушчана да матуральных экзаменаў 15 чал., не дапушчана да матуральн. экз. 4 чал. Атрымалі матуру 13 чал.

Далей як са справаздачы гр. Р. Астроўскага так і з прамоваў іншых сяброў Камітэту выясьнілася, што ня гледзячы на цяжкі матэр'яльны стан гімназіі школьны год прайшоў нармальна і даў вынікі ня горшыя, чым у іншых, не-беларускіх гімназіях.

Агульны сход прыняў да ведама гэты даклад і вынес наступную рэзалюцыю:

„Выслухаўшы справаздачу п. Дырэктара і Старшыні Бацькоўскага Камітэту гімназіі, агульны сход бацькоў выказвае шчырую падзяку п. Дырэктару Астроўскаму, а таксама ўсяму вучыцельскаму пэрсаналу за надта цяжкую і сумленную працу па асьвеце і выхаваньню нашых дзяцей, а таксама за добрыя вынікі працы ў апошнія гады, выявіўшыяся ў павялічэньні радоў нашай студэнскай моладзі, прышлых працаўнікоў на ніве беларускай“. Рэзалюцыя гэта была прынята ўсімі прысутнымі пры 3-х устрымаўшыхся (п.п. Ярэміч, б. сэнатор Богдановіч і Кэпель).

Далей сход прыступіў да разгляданьня ўсіх выдаткаў і даходаў у 1930-31 шк. г. Сход прыняў бюджэт гімназіі на гэты год у суме 50.493 злотых.

Пры абгаварываньні пляну працы на будучыню п. Ярэміч, а за ім і п. Багдановіч прыступілі да „атакі“ на Пэдагагічную Раду і ў дэ-

(Гл. 4 стр.)



ры год ня можам утрымаць і сабраць для яе хоць пару тысяч падпішчыкаў. У сучасны момант на 2000 беларусаў не прыпадае нават адзін платны падпішчык газэты. — Гэта зьявішча вельмі сумнае, гэта—наш нацыянальны і соцыяльны сорам! Вінаваты ў гэтым сам беларускі народ, а яшчэ больш яго правадыры, якія завялі беларускую справу ў такі глухі тупік.

У той час, калі ў іншых народаў прэса зьяўляецца адным з найвялікшых чыньнікаў—паказчыкам ягонай сілы, разьвіцьця і культуры, а адначасна з тым дае той арганізацыі, ў чыіх руках яна знаходзіцца, значныя матэр'яльныя сродкі на барацьбу, дзе сотні тысяч людзей знаходзяць працу пры газэце, бо ў нас сам рэдактар галадае і займаецца пабочнай працай на пражыцьцё, ў нас больш часу, працы і энэргіі трацiцца на тое, каб дзе пазычыць грошай на друк і паперу, чым на рэдагаваньне і выданьне самай газэты, таму газэта так нерэгулярна выходзіць, што выхад кожнага новага нумару беларуск. газэты ў Вільні, зьяўляецца даволі вялікай падзеяй.

Праўда, апрача перашкодаў палітычнага характару, сучасны эканамічны і гаспадарскі крызіс таксама перашкаджаець разьвіцьцю беларуск. прэсы. Так напр., каб выпісаць сабе на паўгода беларускую тыднёвую газэту, селянін павінен прадаць каля двох пудоў збожа. Цяжка аднаму! Але ёсьць на гэта рада: дзе адзін ня можа,—там трэба дзеяць грамадой.—Каб кожны селянін ахвяраваў 20—50 грошай у месяц на родную справу, дык кожная вёска мела-б родных кніжак і газэтаў столькі, колькі-б захацела. Мелі-б тагды ўласным коштам пабудаваныя Народныя дамы, бібліатэкі-чытальні і інш. Калі заглянуць у кожнае места, мястэчка, ці большую вёску на Беларусі, то пабачым, колькі там розных крамаў, рэстарацыяў, піўярняў, дзе гарэлка з-пад палы прадаецца больш, чым піва,—усё гэта створана рукамі селяніна,—усё гэта жыруе на цяжка запрацаваны сялянскі грош. Селянін сваімі мазалямі ўтрымлівае ўсю гэту зграю, гадуе ім брухі, творыць ім багацьці, а сам жывець амаль-што так, як жылі яго дзяды за паншчынай, як жылі да рэвалюцыі, так і цяпер у беднаце, ў цемнаце, ў несьвядомасьці. Трэба аднак аддаць справядлівасьць, што наш селянін і работнік не заўсёды быў такім пасыўным, як здаецца, цяпер. У гісторыі адраджэньня Беларускага Народу ёсьць прыгожыя мамэнты, дзе сам Народ выявіў сваю Вялікую Волю, як напр. абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі, выбары ў Сойм і Сэнат ў 1922 г., масавы рух у часе „Грамады“ і гэт. д. Толькі з гэтай народнай Волі немаглі належным спосабам скарыстаць яго пазьнейшыя правадыры, якім прыпадкова прышлося кіраваць беларускай справай у 1927—30 г. г.

Дык сьцьвердзіўшы, што дажыліся мы да жабрацкай торбы, дайшлі да тупіка, што далей у гэтым кірунку няма куды іськці, мы павінны шчыра гледзячы праўдзе ў вочы запытаць сябе:— **Дык куды-ж іськці?**

Што рабіць: ці таптацца на месцы ў сучасным гнілым балоце, ці плакаць і наракаць на лёс, на цяжкія варункі жыцьця і... нічога не рабіць, паддацца, каб за нас рабілі камуністы, пэпэсаўцы, вызваленцы і розн. „Строніцтвы Хлопскія“, ці „нашы“ богоойчызьняныя хадэкі і сельсаюзьнікі атручвалі гнілым ядам беларускі народ, ці самім узяць свае справы ў свае рукі і працаваць, працаваць, працаваць з усіх сілаў, аддаць свой розум і здольнасьці роднаму Народу?

Хто жывы, той павінен узяцца за працу, павінен іськці толькі наперад, павінен тварыць новае жыцьцё! А працы ў нас шмат. Выйшаўшы з тупіка на вольны прастор, мы павінны пакіраваць справу так, каб зноў мець сваю сталую газэту, свае месячнікі і тыднявікі, сваю гумарыстычную часопісь. Даць сродкі Белар. Выдав. Т-ву на новыя кніжкі, ажывіць Беларускі Тэатр, выратваць Т-ва Беларуск. Школы ад няўхільнай загубы, ўліць беларускі дух у коопэратывы. Дый ці можна пералічыць усю тую працу, якая чакае жывы Беларускі Народ.

А таму, хто хоча шчыра працаваць на карысьць свайго беднага, загнанага народу, хто жадае ўратаваць яго культуру ад заняпаду, хто чуе ў сабе сілы да змаганьня за лепшае заўтра Беларусі, той павінен перш за ўсё прызнацца, што той дарогай, якая завяла беларускі рух да сучаснага незайздроснага становішча, больш іськці ня можна. Кожны павінен добра ведаць, што жыцьцё не стаіць на адным мейсцы, жыцьцё ідзе толькі наперад, а з ім абавязкава павінен іськці кожны жывы, культурны, здаровы чалавек. Шлях дэмагогіі, сварак, асабістых амбіцыяў, непаразуменьняў, а нават сьвядомай шкоднасьці для роднай справы па якому прабавалі весьці беларускі народ розныя самазваныя „нашы“ правадыры і правадырочкі, давялі беларускі рух да такога тупіка, з якога цяпер прыходзіцца цяжка выкарабкавацца.

Прыйшоўшы да пераканаўня, што ўсе тыя мэтады, якія ў апошнія гады ўжывалі гэтыя правадыры і правадырочкі, няслушна лічыўшыя сябе наступнікамі правадыроў „Грамады“, загнаўшыя Вялікі Беларускі Рух у нейкае глухое і шкоднае падзямельле, якое загнала найлепшыя, найактыўнейшыя нашы сілы за краты, або за зялёную граніцу, якое давяло наш Рух да нячуванага заняпаду, мэтады не аб'еднаньня, а сьвядомага парозьненьня, пасварэньня беларускага селяніна, работніка, інтэлігента аднаго з другім, прынясло нам вялізныя неаблічальныя шкоды, павінны адкінуць гэтыя нягодныя і шкодныя мэтады, а стварыць новыя, магчымыя да працы ў сучасным цяжкім часе. Галоўным чынам дзеля гэтага зьяўляецца **Аб'еднаньне і Праца**.

Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Прасьветных і Гаспадарскіх Інстытуцыяў і Арганізацыяў пачаў у гэтым кірунку працу і заклікае ўсіх братоў-Беларусаў да аб'еднаньня і карыснай для Беларускага Народу працы пад сьцягам Цэнтральнага Саюзу.

Хай кожны, хто ня хоча больш жыць чужым розумам, а сваім уласным, хто ня хоча іськці больш на павадку розных нясумленных дэмагогаў, жыраваўшых на цемнаце і несьвядомасьці нашых сялян і работнікаў, хай працуе разам з Цэнтральным Саюзам.

Барыс Грамацкі.

